Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
Выдаецца са снежня 1994 года
№700

Штотыднёвая газета
vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

№36(700) 5 верасня 2013 года.
Кошт свабодны.









Першы раз – у першы клас!

Фота Ул. Скрабатуна.



## Цэны на бензін і дызпаліва выраслі ў Беларусі ў сярэднім на 5 працэнтаў

**Канцэрн «Белнафтахім» зацвердзіў новыя адпускныя і рознічныя цэны на нафтапрадукты, паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў канцэрне.**

Рознічны кошт бензіну і дызельнага паліва, якія рэалізуюцца праз АЗС, павялічваецца ў сярэднім на 5 працэнтаў і з 3 верасня 2013 года складае за літр: бензін АІ-92 – Br7800, бензін АІ-95 – Br8300, дызельнае паліва – Br8500.

«Цэны перагледжаны ў мэтах частковай кампенсацыі павышэння з 28 жніўня бягучага года ставак акцызаў на аўтамабільныя бензіны на 45 працэнтаў, на дызельнае паліва на 70 працэнтаў», - удакладнілі спецыялісты.

*Кар. БЕЛТА*













## У 2014 годзе Дзень беларускай пісьменнасці пройдзе ў Заслаўі

### Горад у другі раз прымае фестываль.

У 2014 годзе Дзень беларускай пісьменнасці пройдзе ў Заслаўі. Пра гэта ў апошнім выпуску паведамляе газета «Літаратура і мастацтва».

Дзень беларускага пісьменства адзначаецца з 1994 года ў першую нядзелю верасня. У Заслаўі фестываль упершыню прайшоў у 2000 годзе.

Нагадаем, што сёлета фестываль прайшоў у Быхаве.

*NN.by*



Падаць абвестку ў «Вольнае Глыбокае» можна не выходзячы з дому, патэлефанаваўшы на ________ №166

Полацкі раён

# На дарогах неспакойна

■ Чэслаў Якубовіч

**У гэты час года інтэнсіўнасць дарожнага руху – найвышэйшая, але, на жаль, аднačасова шмат розных здарэнняў на дарогах з цяжкімі наступствамі.**

Добрыя ўмовы надвор’я былі і ў той выхадны дзень, калі па маршруце Віцебск-Браслаў адправіўся раніцай аўтобус МАЗ беларускай вытворчасці. Ужо на тэрыторыі Полацкага раёна паблізу аграгарадка Гараны яго 59-гадовы кіроўца на нейкі момант страціў канцэнтрацыю ўвагі і выехаў на паласу сустрэчнага руху. Удар у сустрэчнае аўто быў такой сілы, што міні-вэн “Фольксваген-Шаран” і сам аўтобус МАЗ зляцелі ў кювет і перакуліліся. У гэтым ДТЗ смяртэльную траўму аўтрымаў і загінуў на месцы 63-гадовы вадзіцель іншамаркі з пасёлка Фарынава, а ехаўшая з ім пасажырка з гарпасёлка Ветрына атрымала раненні і была дастаўлена ў бальніцу. У самім жа трапіўшым у аварыю аўтобусе ехала даволі шмат – 20 пасажыраў і ўсе яны перажылі сапраўдны шок. З іх 7 чалавек пацярпелі, а чатыром пасажырам, сярод іх і дзіця, спатрэбілася дапамога медыкаў з лячэннем у стацыянары. У гэтай жа мясцовасці сёлета на дарогах раней ужо фіксаваліся падобныя жудасныя здарэнні. Але колькасць аварый з цяжкімі наступствамі расце. Ужо на тэрыторыі суседняга Шумілінскага раёна напрыканцы лета рызыкнуў сесці за руль 30-гадовы жыхар гарпасёлка Обаль, якога вясной пазбавілі вадзіцельскіх правоў. Гэты вадзіцель таксама не справіўся з кіраваннем, сутыкнуўся з сустрэчным аўто і загінуў у кювеце. Выжыў толькі яго сябар, які быў моцна паранены. Яшчэ праз пару дзён ужо маладая жыхарка Полацка наехала на мясцовую пенсіянерку, якая ад атрыманых траўм загінула.

Полацкі раён

# Няма каму вучыцца

■ Станіслаў Раманчук

**Вынікі сёлетняй уступнай кампаніі па паступленні ў айчынныя ВНУ засмуцілі і здзівілі многіх, а ў Полацкім дзяржаўным універсітэцэ адбыўся недабор студэнтаў нават на дзённым бюджэтным аддзяленні.**

У гэтым годзе тут, як і ў цэлым па Беларусі, прыёмная камісія сутыкнулася са змяншэннем колькасці выпускнікоў школ, а таксама многія патэнцыйныя абітурыенты не змаглі пераадолець павышаную планку балаў на цэнтралізаваным тэсціраванні. Таму па выніках прыёмных выпрабаванняў недабралі 49 першакуснікаў-бюджэтнікаў для вучобы на дзённым і завочным аддзяленнях. Сітуацыя са студэнтамі-платнікамі ў гэтым універсітэцэ сёлета проста жахлівая. Рэктарат разлічваў на запаўненне 1750 платных месцаў, а падалі дакументы, каб вучыцца за грошы, толькі 381 юнак і дзяўчына. Ужо відавочна, што ўзровень ведаў у моладзі даволі нізкі. Праўда, гэта не датычыць шэрагу прэстыжных спецыяльнасцей. На юрыстаў, спецыялістаў лагістыкі і замежных моў конкурс і на бюджэт дасягаў ад 4,5 да 6,8 чалавек на месца. Аднак стаць настаўнікам працоўнага навучання пажадаў толькі адзін абітуріент, а мелася 8 бюджэтных месц. У цэлым конкурс стаць студэнтам у Полацку знізіўся да 1,5 чалавека на жаданы студэнцкі білет. Акрамя недабору студэнтаў платнікаў на дзённым аддзяленні засталіся вакантнымі і больш паловы месц для тых, хто мог бы атрымаць дыплом завочна. На Віцебшчыне толькі медыкі пранейшаму не мелі праблем з конкурсам пры паступленні, а ў Віцебскім тэхналагічным універсітэце, дзе вучыцца не так і проста, конкурс нават на бюджэт быў меней чалавека на месца.

Пастаўскі раён

# Перавозкі па новай схеме

■ Кастусь Александровіч

**Апошнім часам у нас актыўна заняліся рознымі рэарганізацыямі і скарачэннем штатаў работнікаў у рамках праграмы аптымізацыі кіравання.**

Вось і ў Паставах нядаўна пазачарговы сход акцыянераў аўтатранспартнага прадпрыемства №17 пагадзіўся на сваю такую рэарганізацыю і на далучэнне да ААТ “Віцебскаблааўтатранс”. На шчасце, ні колькасць 112 адзінак рухомага саставу, ні штаты працуючых тут не скароцяць. А вось сваю самастойнасць калектыў страціў, бо цяпер аўтапарк стаў працаваць на аснове даверанасці. І ўжо абласны цэнтр будзе вызначаць, якія рэйсы захаваць, а якія стратныя і не эфектыўныя маршруты могуць неўзабаве патрапіць пад далейшую аптымізацыю схемы перавозак пасажыраў. Увогуле сама гэта галіна цяпер сутыкаецца паўсюдна з кадравымі і іншымі праблемамі, недахопам вадзіцеляў. За апошніх паўтара года ў аўтапарку №17 вымушаны былі спісаць 7 аўтобусаў, а набылі ім на замену толькі два. Праўда, яшчэ 3 адзінкі рухомага саставу ўзялі ў арэнду ў калег з Навапалацка, дзе яны стаялі на прыколе, бо не было каго пасадзіць за руль. Удалося тут падняць заробкі вадзіцелям і крыху спыніўся адток кадраў, але пастаўчане таксама шукаюць новых кіроўцаў, пасылаюць усіх жадаючых на курсы перападрыхтоўкі. Хапае пакуль працы і вадзіцелям 38 грузавікоў, а грузаперавозкі дапамагаюць калектыву трымацца на плыву. Дадатковы прыбытак аўтапарку прыносяць таксама яго аўтамагазін, шведская пiларама і станцыя тэхабслугоўвання і рамонту, якія аказваюць паслугі жадаючым.

# Аб самым надзённым

## ЯК І ШЭРАГ ІНШЫХ ПРАГРАМ У БЕЛАРУСІ, ГРАНДЫЁЗНЫЯ ПЛАНЫ МАДЭРНІЗАЦЫІ АКАЗАЛІСЯ ПАД ПАГРОЗАЙ ЗРЫВУ



■ Аляксандр Цішкевіч

**Наша бяда ў тым, што да мадэрнізацыі павінна быць гатовым і грамадства, а сама дзяржава быць эфектыўнай, укараніць сучасныя сістэмы ўліку затрат, палепшыць агульны маркетынг. У Беларусі наперадзе нямераны аб’ём дзейнасці і справы пачнуць паляшацца, калі мы хоць вывучым і станем пераймаць на практыцы паспяховы вопыт бліжэйшых нашых суседзяў па пераходзе да НЭПу – новай прамысловай палітыцы.**

Чамусьці апошнім часам у беларусаў усё меней падстаў для радасці, бо толькі прыбаўляецца праблем, якую сферу жыццядзейнасці ні вазьмі. Самае непрыемнае, што і сёлета летам не ўдалося спыніць падзенне прамысловай вытворчасці, якое пачалося яшчэ ў другім паўгоддзі 2012 года. Нашы тавары становяцца ўсё болей, на жаль, неканкурэнтаздольнымі, асядаюць на складах. Сфера будаўніцтва, якую яшчэ нядаўна называлі лакаматывам эканомікі, сутыкнулася з адтокам лепшых кадраў на працу за мяжой, у сталіцы і абласцях дзясяткі незавершаных аб’ектаў-доўгабудаў, жылых дамоў з сарванымі тэрмінамі здачы ў эксплуатацыю.

Беларусь сутыкнулася з эпідэміяй афрыканскай чумы свіней, недабрала на жніве значную колькасць збожжа, хоць без хлеба не застанецца. Сталі зніжацца золатавалютныя рэзервы, у сельскіх рэгіёнах заробкі ніяк не наблізяцца да даўно абяцаных 500 долараў. Ды і беларускія спартсмены ўсё болей становяцца статыстамі на міжнародных спаборніцтвах, з-за чаго кіраўнік дзяржавы паабяцаў не плаціць ім болей шалёных грошай і правёў з гэтай нагоды спецыяльную нараду з работнікамі спорту і генераламі сілавых структур.

А вось па пытанні комплекснай мадэрнізацыі айчыннай эканомікі ў нязменнага беларускага лідара адбылася толькі рабочая сустрэча з дакладам віцэ-прэм’ера Пятра Пракаповіча. Пра гэту праграму сам А. Лукашэнка публічна загаварыў год назад і запатрабаваў ад урада і ўпраўленцаў у абласцях такіх змен, якія б забяспечылі новы прарыў у развіцці на кожным прадпрыемстве краіны на працягу наступных 3-5 гадоў. Аднак яшчэ зімой, другая па значнасці службовая асоба дзяржавы – прэм’ер-міністр М. Мясніковіч шчыра прызнаўся, што распрацаваныя грандыёзныя планы абнаўлення вытворчасці не падмацаваны матэрыяльнымі рэсурсамі для іх паспяховага ажыццяўлення.

І гэта, сапраўды, так. Кіраўнік урада ведае, што ў большасці нашых заводаў і фабрык недастаткова сродкаў на мадэрнізацыю. Мала грошай на яе правядзенне ў дзяржбюджэце, як і не стала хапаць рэсурсаў у беларускіх банкаў, а прамыя замежныя інвестыцыі добра калі дасягаюць 1 млрд. долараў у год і абыходзяць Беларусь бокам. У выніку падчас даклада віцэ-прэм’ера прагучала горкая праўда, што больш паловы з важнейшых 3680 дзяржпрадпрыемстваў правальваюць планы мадэрнізацыі і неабходна, як паведаміла прэзідэнцкая прэс-служба, прымаць дадатковыя меры.

Але дзе сродкі ўзяць, паколькі па разліках спецыялістаў, толькі прадпрыемствам самага прабемнага зараз Міністэрства прамысловасці на сваё тэхпераўзбраенне да 2020 года трэба недзе адшукаць 90 млрд. долараў. На самой справе ўжо не толькі многія гранды, але і большасць вытворчасцей у глыбінцы – гэта нізкарэнтабельныя прадпрыемствы з сумнымі перспектывамі. Да прыкладу, нягледзячы на шматгадовыя субсідыі дзяржавы, узел у праграме “Саюзны тэлевізар”, збліжэнне з кітайцамі, пад пагрозай скарачэння аб’ёмаў дзейнасці апынуліся два нашы тэлезаводы “Віцязь” і “Гарызонт”, бо іх прадукцыя нават у Расіі слаба запатрабавана.

А хіба ў лепшым становішчы цяпер знаходзяцца толькі ў беларускай сталіцы велазавод, “Прамень”, “Інтэграл”, шарыкападшыпнікавы, прыборабудаўнічы заводы? Ды і на самых вядомых флагманах, мінскіх МТЗ і на МАЗе сітуацыя не самая спрыяльная, бо на складах асядае значная частка гатовай прадукцыі. Такім чынам, у нас не хапае не толькі грошай на мадэрнізацыю, ды і яшчэ сёлета і ў наступным годзе прыпадае пік выплат па знешніх даўгах і займах. Самае сумнае, як ні круці, але таксама падае канкурэнтаздольнасць эканомікі Беларусі ў цэлым, бо краіна за апошнія 20 гадоў развівалася слаба і адстала ў развіцці ўжо на адзін тэхналагічны ўклад.

Нарэшце і пажылы віцэпрэм’ер П. Пракаповіч разумее, што прычыны нашага адставання яшчэ і ў мысленні, недахопе эфектыўных сучасных менеджэраўупраўленцаў, адсутнасці адпаведнай сістэмы кіравання (у Беларусі звычайна ручны камандны механізм упраўлення з дапамогай бізуна і перніка). Наша бяда ў тым, што да мадэрнізацыі павінна быць гатовым і грамадства, а сама дзяржава быць эфектыўнай, укараніць сучасныя сістэмы ўліку затрат, палепшыць агульны маркетынг. У Беларусі наперадзе нямераны аб’ём дзейнасці і справы пачнуць паляшацца, калі мы хоць вывучым і станем пераймаць на практыцы паспяховы вопыт бліжэйшых нашых суседзяў па пераходзе да НЭПу – новай прамысловай палітыцы.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 05.09.13 | | | | Пятніца 06.09.13 | | | | Субота 07.09.13 | | | | Нядзеля 08.09.13 | | | | Пнд.09.09.13 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +7 | +10 | +16 | +12 | +7 | +10 | +16 | +11 | +5 | +9 | +17 | +12 | +7 | +12 | +18 | +14 | +10 | +13 | +18 |
| Ціск | 752 | 753 | 752 | 752 | 751 | 751 | 750 | 751 | 751 | 753 | 753 | 754 | 754 | 755 | 754 | 754 | 753 | 753 | 753 |
| Вільготнасць | 92 | 83 | 50 | 74 | 90 | 77 | 46 | 68 | 88 | 86 | 51 | 77 | 99 | 94 | 68 | 65 | 98 | 99 | 78 |
| Вецер м/сек | 3 Пн | 5 Пн | 8 Пн-У | 5 Пн | 4 Пн | 6 Пн | 8 Пн | 5 Пн | 4 Пн | 4 Пн | 6 Пн | 3 Пн | 3 Пн | 3 Пн-З | 5 Пн | 2 Пн-З | 1 Пн | 2 Пн | 4 Пн-У |

## Дзень за днём

**У Беларусі намецілі ўдасканаліць сістэму прафесійнага пенсійнага страхавання. Па новых правілах неўзабаве пройдуць выбары ў мясцовыя Саветы, але касметычныя змены Выбарчага кодэкса не зменяцьпалітычны клімат у нашай краіне. Недабор студэнтаў на бюджэт у вышэйшыя навучальныя ўстановы Беларусі дасягнуў амаль 1800 чалавек. З 1 верасня ўрокі фізкультуры ў беларускіх школах сталі праводзіцца 3 разы на тыдзень, колькасць настаўнікаў скарацілася на 7 тысяч з-за закрыцця па краіне яшчэ 130 малакамплектных школ. Толькі за высокія вынікі і медалі паабяцалі беларускім спартсменам плаціць вялікія грошы.**

# Важнейшыя навіны свету

**Егіпет.** На працягу месяца ўлады ўвялі ў краіне надзвычайнае становішча і каменданцкі час у гарадах, у сутычках мусульман з арміяй і паліцыяй было шмат ахвяр, параненых.

**Украіна.** І правячая кааліцыя, і апазіцыя рэзка асудзілі распачатую Расіяй неаб'яўленую гандлёвую вайну супраць украінскіх тавараў, каб сарваць збліжэнне Украіны з ЕС.

**Індыя.** Ноччу ў порце г. Мумбаі пасля моцнага выбуху загарэлася і часткова затанула зробленая ў Расіі 16 гадоў назад падводная лодка, частка маракоў экіпажа загінула.

**Аўстралія.** Вучоныя краіны стварылі новы лекавы сродак, які можа стаць пераломным у змаганні з ракавымі захворваннямі і хутка знішчаць злаякасныя ракавыя клеткі.

**Кітай.** Дэлегацыя бізнесменаў з рэгіёнаў краіны пасля аб'езду Беларусі з тыднёвым візітам паведаміла, што не змагла знайсці там нічога цікавага для пакупкі і інвестыцый.

**Грэцыя.** Нягледзячы на рэжым эканоміі расходаў дзяржаўнага бюджэту, эканоміка краіны шосты год у рэцэсіі, узровень беспрацоўя вырас да 27,6 %, ужо 1,4 мільёна грэкаў не маюць работы.

**Расія.** Былы глава піўной кампаніі "Балтыка", бізнесмен Т. Баллоеў не пабаяўся купіць за 1 млн. $ швейную фабрыку ў Беларусі, раней у яго там быў канфлікт з-за "Крыніцы".

**Украіна.** Сусветна вядомы баксёр Віталь Клічко заявіў, што будзе змагацца за пасаду прэзідэнта, рэйтынг лідара партыі УДАР ужо цяпер крыху вышэй, чым у В. Януковіча.

**Лівія.** У МУС краіны прызналі, што з турмы горада Бенгазі збеглі 1200 зняволеных, усяго ў бягах 14 тысяч розных злачынцаў, аднаўленне парадку ў краіне ідзе з цяжкасцямі.

**Латвія.** "Беларуская нафтавая кампанія" вырашыла ў Рыжскім порце альбо порце Вентспілса пабудаваць ці купіць тэрмінал для захоўвання і адгрузкі нафтапрадуктаў.

**Венесуэла.** У прамым эфіры па тэлебачанні прэзідэнт Н. Мадура ў парыве шчырасці прызнаўся, што часта спіць не з жонкай, а ля магілы Уга Чавеса ў пошуках натхнення.

**Літва.** Шведская кампанія ІКЕА за 2 гады пабудавала і адкрыла ў Вільні двухпавярховы мэблевы гіпермаркет з 8 тысячамі відаў мэблі, ён стаў папулярным і сярод беларусаў.

**Галандыя.** Ва ўзросце 44 гады памёр малодшы брат караля, прынц Фрызы, ён на працягу 18 месяцаў быў у коме пасля здарэння ў гарах Аўстрыі і папаў летась пад моцную лавіну.

**Польшча.** З-за АЧС у Беларусі для палякаў прыгранічча зрабілі больш жорсткімі правілы ўтрымання свіней на фермах, забаранілі свіныя ярмаркі, узмацнілі ветэрынарны кантроль.

**Расія.** На 84-м годзе жыцця памёр вядомы журналіст "Комсомольской правды", лаўрэат Ленінскай прэміі, вядучы тэлепраграмы "У свеце жывёл" Васіль Пяскоў, у яго быў інсульт

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Тэрыторыю МТЗ за лета, як паведаміў старшыня прафсаюза РЭП Г. Фядыніч, не ўдалося разгрузіць ад непрададзеных трактараў, заробкі ўпалі, шмат хто там звольніўся.

**Салігорск.** У І-м паўгоддзі сур'ёзна страціла Беларуская калійная кампанія аб'ёмы паставак угнаеннаў, якія адышлі канкурэнтам, канадска-амерыканскай фірме Canpotex.

**Жодзіна.** Калектыў БелАЗа ўстрывожыла, што яго галоўны канкурэт Caterpillar пачаў будаваць пад Санкт-Пецярбургам свой завод па выпуску кар'ерных самазвалаў.

**Брэст.** Для выратавання ад банкроцтва дыванoвага камбіната канцэрн "Беллегпрам" выдзеліў яшчэ 70 млрд. рублёў, раней ён пагасіў 19 млрд.даўгоў, але збыту дываноў няма.

**Баранавічы.** За збіццё свайго былога настаўніка ў школе суд пакараў 22-гадовага хлопца 6 месяцамі арышту ў СІЗА, бацькі хулігана выплацілі пацярпеламу яшчэ 15 млн. рублёў.

**Гомель.** З акна 5-га паверха ў інтэрнаце выпала і цудам выжыла 2-гадовае старэйшае дзіця, калі яго маці адышла суцішыць свайго меншага трохмесячнага малога.

**Магілёў.** Вобласць, адзіная ў Беларусі завяршыла паўгоддзе з невялікім дэфіцытам абласнога бюджэту – 30 млрд. рублёў, калі ў Мінску быў прафіцыт бюджэту болей 3 трлн.

**Бяроза.** За зрыў праекта мадэрнізацыі Бярозаўскай ДРЭС адразу трох упраўленцаў Мінэнерга Беларусі на чале з экснамеснікам міністра Э. Таўпянцом чакае суд.

**Мінск.** Мэр сталіцы М. Ладуцька даручыў падшыпнікаваму і інструментальнаму заводам пачаць масавы выпуск на экспарт сякер і ручных кос, не ўступаючых заходнім аналагам.

**Шклоў.** Нават на радзіме кіраўніка краіны сярэднямесячная зарплата па раёне – 3,94 млн. рублёў афіцыйна далёка не дасягае 500 $, якія абяцалі народу перад выбарамі ў 2010 годзе

**Мінск.** Каля тысячы подпісаў вядомых людзей перадалі ў Міністэрства культуры РБ за ўключэнне бел-чырвона-белага сцяга ў спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей.

**Рэчыца.** Міліцыя затрымала групу навучэнцаў тэхнічнага каледжа, якія ноччу ў горадзе скралі 3 аўтамабілі, а адзін з іх "ВАЗ-2101" потым яшчэ і спалілі ў лясной канаве.

**Гомель.** Пасля ўнутранага расследвання супрацоўнікаў аховы мясцовага гіпермаркета "Еўраопт", якія збілі п'яных агрэсіўных маладых пакупнікоў, усё ж звольнілі з працы.

**Мінск.** Да кастрычніка Следчы камітэт прадоўжыў расследванне крымінальнай справы супраць экс-дырэктара Дзяржцырка Т. Бандарчук за злоўжыванне быццам паўнамоцтвамі.

**Барысаў.** Пасля серыі няўдач у сезоне ў вядучым ФК краіны БАТЭ ўвялі сістэму штрафаў, часова зменшылі заробкі ігракам, якія сталі дрэнна гуляць, думаюць аб абнаўленні штату.

# З 1 верасня падаражэла электраэнергія



■ БЕЛТА

**Электрычная энергія для жыхароў Беларусі падаражэла з 1 верасня 2013 года. Адпаведнае рашэнне змяшчаецца ў пастанове Савета Міністраў ад 28 Жніўня 2013 г. № 756 «Аб унясенні змяненняў у пастанову Савета Міністраў Беларусі ад 4 лютага 2011 года № 138», якое афіцыйна апублікавана на Нацыянальным прававым інтэрнэт -партале , паведамляе БЕЛТА**

Згодна з дакументам, электрычная энергія ў жылых дамах ( кватэрах), абсталяваных ва ўстаноўленым парадку электрычнымі плітамі , па аднаставачны тарыфе з 1 верасня будзе каштаваць Br479 , 1 за 1 кВт.гадз (цяпер - Br428 , 5 за 1 кВт.гадз ), па дыферэнцыяваным тарыфе - Br335 , 4 за 1 кВт. гадз у перыяд мінімальных нагрузак з 22.00 да 17.00 (цяпер - Br300 ) і Br958 , 2 за 1 кВт.гадз у перыяд максімальных нагрузак з 17.00 да 22.00 (цяпер - Br857 ). Электраэнергія для патрэб ацяплення і гарачага водазабеспячэння з далучанай магутнасцю абсталявання больш за 5 кВт падаражэе да Br563 , 8 за 1 кВт. гадз у перыяд мінімальных нагрузак з 23.00 да 6.00 (цяпер - Br504 , 3) і да Br1 691,4 за 1 кВт.гадз у астатні час сутак (цяпер - Br1 512,9 ). Электрычная энергія, за выключэннем указанай у папярэдніх выпадках, па аднаставачным тарыфе з 1 верасня абыдзецца жыхарам рэспублікі ў Br563 , 8 за 1 кВт.гадз (цяпер - Br504 , 3), па дыферэнцыяваным тарыфе - Br394, 7 за 1 кВт. гадз у перыяд мінімальных нагрузак з 22.00 да 17.00 (цяпер - Br353 ) і Br1 127,6 за 1 кВт.гадз у перыяд максімальных нагрузак з 17.00 да 22.00 (цяпер - Br1 008,6 ). Папярэдні раз тарыфы на электраэнергію для насельніцтва былі павышаны з 1 жніўня 2013 года. З 1 лютага бягучага года ў краіне была ўведзена дыферэнцыраваная аплата за электраэнергію і газазабеспячэнне. Гэта прадугледжана пастановай Савета Міністраў № 52 ад 23 студзеня 2013 года. Згодна з дакументам , устаноўлена трохступеньчатая сістэма тарыфаў у залежнасці ад аб'ёмаў спажывання электраэнергіі і газу. Так, для грамадзян, якія пражываюць у дамах, абсталяваных электраплітамі , пры штомесячным спажыванні да 250 кВт.гадз электраэнергіі аплата ажыццяўляецца па тарыфах, устаноўленых заканадаўствам. Пры спажыванні ад 250 да 400 кВт.гадз уключна - па ўстаноўленых тарыфах з прымяненнем павышальнага каэфіцыента 1,3, але не вышэй за тарыфы, якія забяспечваюць поўнае пакрыццё эканамічна абгрунтаваных затрат на іх аказанне. Калі спажыванне электраэнергіі перавышае 400 кВт.гадз у месяц, аплата ажыццяўляецца па тарыфах, што забяспечваюць поўную кампенсацыю эканамічна абгрунтаваных затрат на іх аказанне.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Аблвыканкам пацвердзіў наяўнасць у вобласці 35 жылых аб'ектаў-доўгабудаў, як і на Гомельшчыне, большасць з такіх дамоў абяцаюць здаць навасёлам у 2014 годзе.

**Шаркаўшчына.** З 1 красавіка 2014 года з мясцовай радыётэлевізійнай перадаючай станцыі пачнецца на Віцебшчыне адключэнне аналавага тэлевяшчання, затым у Віцебску.

**Орша.** У горадзе нарэшце здалі ў эксплуатацыю доўгабуд – Лядовы палац з трыбунамі на 3,5 тысячы месц для гледачоў, трэці па памерах ва ўсёй Беларусі з забаўляльным цэнтрам.

**Лепель.** Дэлегацыя раёна падчас паездкі ва Ульянаўскую вобласць Расіі заключыла новае пагадненнеабсупрацоўніцтве з муніцыпальнай адміністрацыяй Мелекескага раёна.

**Віцебск.** У абласным цэнтры адкрыўся 30-ты па ліку гандлёвы цэнтр электронікі і бытавой тэхнікі "5 элемент" новага для Беларусі фармата "Ідэальны" з 10 тысячамі груп тавараў.

**Мёры.** Значную дапамогу мясцовай ПМК-55 у рэканструкцыі фермы "Карпачова" ААТ "Пад'ельцы" аказалі два будатрады старшакурснікаў Полацкага дзяржуніверсітэта.

**Новалукомль.** Прыватная станцыя тэхабслугоўвання і рамонту аўтамабіляў стварыла тут яшчэ 10 новых рабочых месцаў, адкрывае і новы цэх кузаўных работ.

**Віцебск.** У рамках праграмы "Школьны аўтобус" Банк развіцця Беларусі перадаў для вобласці першых 10 аўтобусаў для падвозу дзяцей на заняткі, праграма разлічана на 5 год.

**Докшыцы.** Некалькі студэнтаў Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта лесу паспяхова прайшлі вучэбна-палявую практыку ў Бярэзінскім біясферным запаведніку.

**Браслаў.** Нямецкі кардынал Райнер Марыя Велькі, арцыбіскуп Берліна адслужыў галоўную святую імшу на штогадовых урачыстасцях Маці Божай Валадаркі Азёр.

**Віцебск.** На ўездзе ў горад фірма "Еўраторг" пачала будаўніцтва другога па ліку ў Віцебску гіпермаркета "Еўраопт", першым адкрыўся тут гіпермаркет "Карона".

**Расоны.** У райцэнтры пачаўся рамонт даху ваеннага музея, адкрытага па ініцыятыве П. М. Машэрава, раней лясгас адрамантаваў і абнавіў усе партызанскія зямлянкі для турыстаў.

**Полацк.** Падчас калектыўнага адпачынку на возеры трагічна загінула 48-гадовая работніца банку, на падпітку яна трапіла ў вогнішча і памерла ад атрыманых апёкаў.

**Шаркаўшчына.** У вёсцы Алашкі, дзе працаваў вядомы селекцыянер саду Іван Сікора, адкрылі 2-гі па ліку ў раёне помнік яблыку вагой з паўтоны, першы стаіць у раённым цэнтры.

**Віцебск.** Міліцыя затрымала 51-гадовага беспрацоўнага жыхара вёскі Пранікі, які днём пасварыўся і збіў да смерці сваю 86-гадовую цешчу, са старой ён пражываў у яе доме.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# У Мінску зарэгістраваны каталіцкі Каледж тэалогіі

**30 жніўня Упаўнаважаны па справах рэлігій і нацыянальнасцяў Леанід Гуляка ўручыў Мітрапаліту Мінска-Магілёўскаму арцыбіскупу Тадэвушу Кандрусевічу Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі «Мінскага тэалагічнага каледжа імя св. Яна Хрысціцеля».**

Дадзеная духоўная навучальная ўстанова Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі заснавана Мітрапалітам на базе «Цэнтра падрыхтоўкі катэхэтаў». Дырэктарам Каледжа прызначаны кс. д-р Ян Крэміс.

Галоўнай задачай Каледжа з'яўляецца падрыхтоўка спецыялістаў для рэлігійнай дзейнасці. У Каледжы можна будзе атрымаць веды ў галіне тэалогіі, філасофіі, катэхізацыі, біблістыкі, літургіі, гісторыі, касцёльнага права, дабрачыннасці, сямейнага жыцця, рэлігійных сродкаў масавай камунікацыі і інш.

Заснаванне Каледжа з'яўляецца важным этапам на шляху да ўзнікнення ў будучыні Вышэйшай каталіцкай навучальнай установы, якая вельмі патрэбна ў сталіцы Беларусі.

*catholic.by*



**Ксёндз Ян Крэміс нарадзіўся 16 жніўня 1972 г. у в. Варанцы Глыбоцкага р-на. У 1996 г. скончыў Гродзенскую вышэйшую духоўную семінарыю і 7 снежня 1996 г. атрымаў святарскія пасвячэнні. У 1996–1998 гг. працаваў вікарыем у касцёле святых Сымона і Алены і ў архікатэдральным касцёле Імя Найсвяцейшай Панны Марыі. У 2000 г. скончыў Люблінскі каталіцкі ўніверсітэт. Магістр, кандыдат тэалагічных навук. Віцэ-рэктар Міждыяцэзіяльнай Вышэйшай духоўнай семінарыі імя святога Тамаша Аквінскага ў Пінску.**

*У свой час на запрашэнне кс. Ё. Булькі асвячаў крыж на гары пры ўездзе ў Мосар.*



Кастусь Шыталь

# Ада Райчонак перадала дзяржаве сядзібу садавода Івана Сікоры

**Грамадская дзеячка Ада Райчонак перадала Шаркоўшчынскаму райвыканкаму сядзібу беларускага садавода Івана Сікоры, што ў вёсцы Малыя Алашкі.**

Ада Эльеўна разам з паплечнікамі ўратавала дом ад разбурэння (сваякі Сікоры прадавалі яго на дровы) і адрамантавала яго.

Каля дзесяці год таму сябры культурна-асветніцкага цэнтра імя Язэпа Драздовіча, якім кіруе Ада Райчонак, набылі сядзібу Івана Сікоры, падтрымлівалі на ёй парадак, аднавілі інтэр'ер дома.

***"Іван Паўлавіч быў мне сябрам, я глядзела на яго як на вялікага чалавека. Да канца жыцця мы сябравалі. Я не магла дапусціць, каб яго хата пайшла з малаткa… Куплялі мэблю, падобную на тую, якая была ў Івана Паўлавіча. Сабралі бібліятэку: канечне, не той багаты кнігазбор, якое ў яго быў, але ўсё ж…",*** - успамінае Ада Райчонак.

Сябры цэнтра імя Драздовіча і іншыя неабыякавыя людзі збіраліся штогод на талаку, каб падтрымліваць парадак на сядзібе садавода. Ды падтрыманне яе ў належным стане патрабуе вельмі шмат высілкаў. Ада Райчонак, якая летась адсвяткавала 75-гадовы юбілей, прызнае, што гэта стала занадта цяжка.

Сімвалічная цырымонія перадачы адбылася 19 жніўня падчас свята "Яблычны Спас", што праводзіць райвыканкам у Малых Алашках. Разам з дакументамі на дом Ада Райчонак передала дзяржаве частку асабістага архіва Івана Сікоры: перапіска з навукоўцамі, лісты да настаўніка Георгія Мядзюхі, занатоўкі навуковых доследаў.

У вёсцы Малыя Алашкі знаходзіцца дзяржаўны музей Івана Сікоры. Дом садавода ўвойдзе ў склад гэтага музея і будзе даступны для наведнікаў.



**Ада Райчонак (справа) передае дырэктарцы дзяржаўнага музея Сікоры, Наталлі Перхуровіч, дакументы на дом і асабісты архіў Івана Сікоры.** *Фота Сяргея Райчонка, «Кліч Радзімы».*

***

**Іван Сікора** – беларускі садавод-самавук. Нарадзіўся ў 1885 годзе ў вёсцы Малыя Алашкі Дзісненскага павета. Скончыў Краснагорскую двухгадовую настаўніцкую школу, курсы настаўнікаў у Кракаве. Вучыў дзяцей у роднай вёсцы, быў звольнены польскай адміністрацыяй за выкладанне па-беларуску.

Пасля звальнення з настаўніцкай працы пачаў працаваць садаводам у абшарніка Пшаздзецкага ў мястэчку Варапаева Пастаўскага павета. Садаводства Іван Сікора асвоіў самастойна і да канца жыцця займаўся селекцыянаваннем раслін. Вывеў каля 500 гатункаў яблыні, 100 гатункаў ігруш, многія гатункі сліваў, бэзу, ружаў. У многіх садах нашага краю растуць яблыкі гатунку "Памяць Сікоры" – яны смачныя і добра захоўваюцца.



**Патрэт Івана Сікоры.** Карціна Віктара Крука з экспазіцыі прыватнага літаратурна-мастацкага музея імя Міхася Райчонка ў Германавічах Шаркоўшчынскага раёна.

**Віктар Сікора**, сын Івана, пры нямецкай акупацыі быў сябрам Саюза беларускай моладзі і таемнай Беларускай незалежніцкай партыі. Пасля прыходу Чырвонай арміі ўзначаліў антысавецкі партызанскі атрад. Адседзеў дзесяць год у ГУЛАГу, вярнуўся ў 1954 годзе. Жыў у Малых Алашках, памёр у 2008 годзе.

# «Глыбоцкая змова» – прэм'ера ў суботу



На тэлеканале Белсат у суботу 7 верасня, а 21:15 – Невядомая Беларусь:**«Глыбоцкая змова»**, дакументальны фільм, Беларусь.

**"Глыбоцкая змова"** – знятая на замову тэлеканалу «Белсат», стужка знанага беларускага рэжысёра Валерыя Мазынскага, якая распавядае пра падпольную моладзевую арганізацыю "Саюз беларускіх патрыётаў" (Глыбокае–Паставы), што дзеяла па заканчэнні Другой сусветнай вайны.

# Украінская талерантнасць: помнік Шчорсу побач з вуліцай Пятлюры

Зміцер Лупач

**Помнік Мікалаю Шчорсу ўсталяваны на бульвары Шаўчэнкі ў Кіеве ў 1954 годзе, калі адзначалася 300-годдзе далучэння Украіны да Маскоўскай дзяржавы. Шчорс на конным помніку глядзіць у бок вуліцы Сымона Пятлюры, з войскамі якога ў свой час яму давялося ваяваць.**

Праўда, вуліца Сымона Пятлюры з'явілася ў Кіеве праз паўстагоддзе пасля ўсталёўкі помніка Шчорсу – указ аб ушанаванні памяці Сымона Пятлюры, а таксама іншых дзеячоў Украінскай Народнай Рэспублікі (УНР), падпісаў прэзідэнт Віктар Юшчанка ў траўні 2005 года. Тады і перамянавалі вуліцу Камінтэрна ў вуліцу Пятлюры. Было запланавана паставіць помнік Сымону Пятлюру, але ён так і не з'явіўся.

Сымон Пятлюра (1879 – 1926) – украінскі ваенны і палітычны дзеяч, галоўны атаман Войска і Флота, узначальваў Дырэкторыю УНР з 1919 па 1920 год. Пасля паражэння сваіх войск эміграваў у Польшчу. У 1923 годзе савецкі ўрад патрабаваў ад Польшчы яго выдачы. Пятлюра пераязджае ў Венгрыю, потым у Аўстрыю, Швейцарыю, а ў кастрычніку 1924 года перабіраецца ў Парыж. 25 траўня 1926 года Пятлюра быў забіты анархістам Шварцбардам, датычнасць да забойства мела савецкае ГПУ.







Мікалай Шчорс (1895 – 1919) – знакаміты камандзір Чырвонай Арміі, у лютым 1919 года быў прызначаны камендантам Кіева, пасля камандваў 1-й Украінскай савецкай дывізіяй. Гэта дывізія якраз і ваявала супраць войск, якімі камандваў Пятлюра. Загінуў Шчорс 30 жніўня 1919 года ў баі з Галіцкай Арміяй, як сцвярджалася, ад кулі пятлюраўскага кулямётчыка. Але пазней высветлілася, што ён быў забіты сваімі з блізкай адлегласці ў патыліцу.

Гэтыя дзеячы, хаця і ваявалі паміж сабой, любілі Украіну, няхай кожны і па-свойму, таму і памяць аб іх вартая ўшанавання. Украінцы ўшанавалі таксама памяць і дзеячоў Украінскай паўстанскай арміі, сярод якіх і Сцяпан Бандэра, помнік якому стаіць у цэнтры Львова. За савецкім часам дзейнасць такіх людзей як Нестар Махно, Сымон Пятлюра, Сцяпан Бандэра асвятлялася толькі чорнымі фарбамі. А савецкія дзеячы паказваліся толькі з дадатнага боку. А, між іншым, савецкая кіраўніцтва спрычынілася да гібелі 10 мільёнаў украінцаў падчас Галадамору ў 30-х гадах мінулага стагоддзя. Дарэчы, мемарыяльны комплекс ахвярам голаду ўсталяваны ў цэнтры Кіева, побач з помнікам савецкім воінам.

Ва Украіне сапраўдная гісторыя паступова вяртаецца свайму народу, чаго не скажаш пра нашу Беларусь. Мы яшчэ працягваем жыць па савецкіх ідэалагічных штампах. У кожным горадзе ёсць вуліцы Леніна, Кірава, Дзяржынскага, Свярдлова і так далей, хаця большасць з іх нічога для Беларусі не зрабілі. Як і раней, памяць пра сапраўдных герояў Беларусі знаходзіцца пад забаронай. Таму адкрыццё сваёй сапраўднай гісторыі ў беларусаў яшчэ наперадзе. У гэтай сувязі хацелася б адзначыць дзейнасць глыбоцкіх уладаў, якія ў мінулым годзе зрабілі Алею знакамітых землякоў, а таксама ўсталявалі Памятную дошку ў гонар Клаўдзія Дуж-Душэўскага.



**Кліменцій Кожан,**
краязнаўца, выпускнік Глыбоцкай педвучэльні.
*м. Германавічы.*

# Помніку князю Альгерду – быць

**Заканчэнне.**
*Пачатак ў №№32,33, 34, 35 за 2013 г.*

Аўтары ліста перабылталі кучкі катлет Русі і мух Арды. Масква тады не знаходзілася ў кучцы "Русі", а таму Альгерд не "злодей Руси", а "злодей Орды". Кім ён і быў. Вось гэта бясспрэчна – ён "злодей татар" і "злодей немцев".

Калі б рускія актывісты некаторых грамадскіх арганізацый Віцебска добра ведалі гісторыю Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага, ведалі праўду аб Альгердзе, яны, магчыма, не напісалі б адкрыты ліст Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнку, у якім выступілі супраць устаноўкі ў Віцебску помніка князю Альгерду. Мяне здзівіла, што сярод асоб, падпісаўшых адкрыты ліст, ёсць педагогі. Яны ў той ці іншай меры павінны былі б ведаць гісторыю Вялікага Княства Літоўскага, дзейнасць князя Альгерда па збіранні рускіх зямель у адзіную дзяржаву. Не віна ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны, а іх бяда, што яны не ведаюць добра гісторыю Беларусі ў сярэднявечны. Яны жылі ў той час, калі гісторыя Беларусі як асобны прадмет не вывучалася. Вывучаліся толькі асобныя пытанні гісторыі Беларусі ў курсе гісторыі СССР. Кандыдат гістарычных навук, дацэнт кафедры гісторыі Беларусі Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта Анатоль Дулаў піша, што людзі, якія падпісалі адкрыты ліст Прэзідэнту краіны, "не зразумелі і не хочуць разумець, што Беларусь – не Расія. Яны не маюць павагі да нашай краіны як да самастойнай дзяржавы са сваёй гісторыяй, сваімі героямі і антыгероямі. Яны так і не зразумелі, што ўсё ж такі трэба паважаць гаспадароў дома, у якім жывеш…"

Святлана Дзядзінкіна ў артыкуле "Возвращение князя Ольгерда, основателя витебских замков" ("Народнае слова", №55 за 21 мая 2013г) прывяла пераканаўчыя аргументы на карысць устаноўкі ў Віцебску помніка князю Альгерду. У прыватнасці, яна піша: "Никто не делает из князя Ольгерда героическую личность, равно как не следует лепить из него дьявола. История требует прежде всего уважительного отношения. Пренебрежение к ней, забвение ведет к духовной нищете. Знание своей истории, уважение к ней, напротив, делают нас богаче, а значит, и свободнее в своем выборе. Белорусы всегда отличались толерантностью, веротерпимостью, умением жить в ладу с окружающими людьми и природой. Давайте хранить традиции, возрождая национальное самосознание, и ценить то, что ценили наши предки. Каждая эпоха на определенном отрезке времени взращивала своих сыновей, которые приносили своей земле и народу несомненную пользу. Среди восточнославянских народов белорусы отличаются наибольшим упорством в повседневном труде, привычкой добиваться успехов собственными силами, стараниями и глубинной привязанностью к малой родине. Разве это не является нашим национальным достоянием?»



*... Ён не піў ні віна, ні піва, меў вялікі розум і падпарадкаваў многіе землі, у тайне рыхтаваў свае паходы, ваяваў не столькі колькасцю, колькі ўменнем.*

(Летапіс Паўночна-Усходняй Русі)

Я не прафесійны гісторык, працаваў настаўнікам рускай мовы і літаратуры, займаўся краязнаўствам больш 50 гадоў. Усё, што ведаю па гісторыі Беларусі, дасягнуў шляхам самаадукацыі. Раю ўсім, хто яшчэ слаба ведае гісторыю Беларусі і, у прыватнасці, перыяд праўлення Вялікага Князя Альгерда, прачытаць артыкул Алены Новікавай "Каму не падабаецца князь Альгерд?" у газеце "Народная Воля", №34 (3775) за 30 красавіка 2013г, артыкул Святланы Дзядзінкінай "Возвращение князя Ольгерда, основателя витебских замков" у газеце "Народнае слова" №55 за 21 мая 2013г., артыкул Арцёма Дзянікіна "Памятник Ольгерду" ў "Аналитической газете «Секретные исследования» №11(292), чэрвень 2013г., артыкул Міколы Ермаловіча "Альгерд" у "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі", т.1, с.105 і іншыя матэрыялы, з якіх можна даведацца праўду аб Альгердзе.

Калі будзем добра ведаць сваю гісторыю, культуру, традыцыі, тады не будзем сумнявацца, ці трэба ставіць помнік князю Альгерду ў Віцебску.

**А. Мароз-Майсяёнак,**
*г. Дзісна.*

# Бярозавы гай

**Чалавек, каб перадаць ушанаванні небу, у рукотворных храмах сваіх ставіць свечкі, а на зямлі, падпарадкоўваючыся мудрасці сэрца, – саджае бярозы.**

То тут, то там стаяць на зямлі бярозавыя гаі, каб не знікала на ёй выява велічы і чысціні. Здалёку, нібы маякі, вабяць позірк ідучага стройныя ствалы, якія зіхацяць белізной.

У няспынных клопатах, турботах клапатлівага дня часта губляецца твая светлая думка. І, калі хочаш яе адшукаць, то абавязкова прыходзіць сюды, у ясны свет бярозавага гаю. Сярод зіхатлівых ствалоў, дзе рояцца і скачуць гуллівыя святлацені, абгарнаецца цела ў лёгкія празрыстыя пакровы з залацістымі сонечнымі крапінкамі і насычаецца душа з крыніц, што бруяць зялёным струменем з вяршыняў. І няма ўжо трывог, толькі перамажнае пачуццё радасці і разуменне таго, што вось гэта яно вось і ёсць – натуральны твой стан, пры якім нясцерпна, проста нясцерпна хочацца прызнацца ў каханні чалавеку любому сустрэчнаму: знаёмаму ці чужому; і ўсякаму стварэнню нават, і ўсяго вялікага і нялёгкага гэтага жыцця. Так лёгка святло ўваходзіць у тваю існасць, так проста становіцца тваёй сутнасцю.

Але штосьці здараецца парой з чалавекам, што ён, атупеўшы ад болю свайго і бяссілля, пачынае чужацца велічы і праходзіць па ўласнай зямлі абыякавым чужынцам.

На ўсходняй ускраіне **Варапаева**, на адным з прырэчных узгоркаў, на самай яго верхавіне, стаіць бярозавы гай. Калісьці пасаджаны ён быў, каб служыць абаронай ад сівераў гадавальніку-саду, што цягнуўся па паўднёвым схіле ўніз. Сад быў абнесены высокай драцяной сеткай, і быў у садзе вартаўнік дзед Карней. Калі не стала ні саду, ні строгага вартаўніка, застаўся гай сам па сабе – з вузенькай сцяжынкай, што вядзе да рэчкі, з гульнёй светлых ценяў, з мірным шолахам лістоты.

Не аднойчы прабягаеш па цяністай сцяжынцы, абвеянай свежасцю бярозавага ветра, і ты бестурботнымі днямі свайго дзяцінства, ці далёка не дзяцінства ўжо, спяшаючыся туды, дзе чакаюць цябе шчаслівыя забавы лета.

Марозным зімовым днём, пракладаючы лыжню па снежнай цаліне ўзгоркаў, убачыш гай заінелым, шляхетным. Спынішся ў доле пад стромкім схілам, і не ў сілах будзеш крануцца з месца: гай узвышаецца над табой, бягуць па небе воблакі, а ты глядзіш, і здаецца, што не аблокі, а гай плыве ў халодным нябесным абшары велічным, зіхатлівым, прывідным караблём.

Увесну захочацца табе палюбавацца красаваннем, удыхнуць духмянай свежасцю маладой зяляніны, і зноў апынешся побач з гаям на тым месцы, дзе калісьці быў сад, а зараз рассцілаецца залацістая дзмухаўцовая сенажаць.

Увосень, калі разам з гаем рудзее ўся акруга, з'явіцца на суседнюю з гаем паляну



руды конь. Ён запрыкмеціць сваім зоркім вокам скрозь рэдкую лістоту бяроз тваю маўклівую прысутнасць і люта заскача вакол калка, за які прывязаны яго ланцуг. А ўвечары адвядуць каня, і застанецца пасля яго руды круг. І будзе гэта знак, што напісала на зямлі яго хай і абмежаваная, але хвацкая воля.

На некаторай адлегласці ад блізкага гаю ёсць яшчэ адзін гай. Але рэдка той, далёкі, наведваюць людзі, таму што не вядзе праз яго сцяжынка да летніх рачных забаў, няма побач яе квяцістай сенажаці, не пасвіцца там і конь, што чараваў бы дзёрзкім скокам сваёй упартай мары. Ён проста, роўна, як да шчасця яго, так і да расчаравання, – далёкі.

А вось з гэтым бярозавым гаем, што суседнічае з мястэчкам, здарылася бяда. Занадта пачасціліся сюды «госці», якія прыносяць з сабой «дарункі» непрыдатныя. Для сябе выдратавалі яны паляну, пакінулі вогнішча і пазначылі ўсю акругу пластыкавым і папяровым смеццем. А вялікая яма на краі гаю змясціла цэлыя копы іх пікніковых адкідаў.

Маўчыць гай. Як заўсёды, ільецца з вяршыняў велічных бяроз залатое ззянне, каб усякай душы пасláць добрую вестку і явіць светлы знак надзеі.

Зайшоў аднойчы сюды выпадковы мілы чалавек, паглядзеў на бяду гаю, прыжмурыў вочы, кінуў раздражнёна: «Агіднасць!» І сышоў, каб ніколі больш сюды не прыходзіць. Зараз ён знойдзе іншую сцежку для сваіх прыемных шпацыраў.

І зноў застаўся гай, як быў. Хто выратавальнік яго доблесны і дзе ён? Дзе анёл-захавальнік яе шчыры і хто ён?

Але дарма ты спадзяешся, сябар мой неацэнны, што гэта хтосьці іншы, а не ты. Гэта ж ты і ёсць. Ты абаронца і анёл-захавальнік усяму, дзе ідзе твая нага. Але ты зусім не думаў пра гэта? Можа быць, ты занадта ўграз у балаціне выжывання, каб падумаць пра сэнс свайго жыцця? Можа, асоба твая ўяўляе воляй магчымасць ні завошта не адказваць? З-за чаго ж чужаешся ты вялікай місіі сваёй і сэнсу прайсці па зямлі анёлам-захавальнікам? З-за чаго дагэтуль бярозавы гай, які лье залатое ззянне наўкола, не здабыў ў тваёй асобе вернага абаронцу і сябра?

Мудрасцю прыроды ці чалавека ўзводзіцца на зямлі жывыя храмы ў выглядзе бярозавых гаяў, каб упарта, нягледзячы на часы, акалічнасці, моду праліваўся ў свет невычарпальнае святло.

Зімою стараннем снягоў ды завей перабінтаваны раны запаветных гаяў. Але калі рашуча сцягвае вясна тугія белыя павязкі і пакровы, ізноў агаляецца тое, што ўяўляе боль і сорам тваёй зямлі.

Няма ў велічы абароны ад невуцтва. Але можа быць, ты падумаеш і вырашыш, што на гэты раз будзе інакш?..

***22.02.2013***

# Інспектары праверылі культуру абслугоўвання пасажыраў аўтамабілямі таксі

**На тэрыторыі раёна і вобласці, у перыяд з 1 па 10 жніўня 2013 г, быў праведзены мэтавы комплекс кантрольна-прафілактычных мерапрыемстваў "Культура абслугоўвання", якія накіраваныя на выяўленне парушэнняў заканадаўства пры выкананні перавозак пасажыраў аўтамабілямі таксі. У кантрольных мерапрыемствах бралі ўдзел АДАІ Глыбоцкага РАУС, Транспартная інспекцыя, ІМПЗ, ГУ ЦГЭ.**

У ходзе правядзення кантрольна-прафілактычнага мерапрыемства асаблівая ўвага надавалася наступным пытанням:

– Утрыманне аўтамабіляў таксі ў належным санітарным стане;

– Стан знешняга выгляду транспартных сродкаў у адпаведнасці патрабаванням;

– Выкананне вадзіцелем рэжыму працы і адпачынку;

– Эксплуатацыя транспартнага сродку, які мае няспраўнасці, пры наяўнасці якіх яго ўдзел у дарожным руху забаронены;




– Адсутнасць адзнакі аб праходжанні дзяржтэхагляду;

– Непраходжанне перадрэйсавага медыцынскага абследавання вадзіцелем перад пачаткам работы;

– Скаргі пасажыраў па пытаннях няякаснага прадстаўлення паслуг;

– Здзяйсненне прадпрымальніцкай дзейнасці без ліцэнзіі.

Прадстаўніцтвы Транспартнай інспекцыі ў Глыбокім, Лепелі і Гарадку правялі па 2 праверкі, у тым ліку – адну сумесную праверку з удзелам ІМПЗ, ДАІ, ГУ ЦГЭ.

У ходзе правядзення кантрольна-прафілактычнага мерапрыемства былі выяўленыя нязначныя парушэнні, якія, аднак, не цягнуць за сабой адміністрацыйную адказнасць. Нашы цяперашнія вадзіцелі больш дысцыплінаваныя, чым гэта было некалькі гадоў таму. Напрыклад, Цэнтрам гігіены і эпідэміялогіі былі выдадзеныя прадпісанні аб замене пашкоджаных сядзенняў на новыя. Былі рэдкія выпадкі, калі ў аптэчках знаходзілі пратэрмінаваныя пігулкі. Што датычыць школьных аўтобусаў – рэкамендавана пафарбаваць іх у жоўты колер.

Адносна выяўлення прадпрымальніцкай дзейнасці – перавозу пасажыраў без ліцэнзіі – такога не знойдзена. Калі дакладней, у раёне аўтастанцыі ўсталяваныя камеры відэаназірання: выпадкаў, каб нейкія левыя рамізнікі (извозчики) хапалі пасажыраў за рукі і сумкі ды ўгаворвалі ехаць з імі да Мінска – не зафіксавана. Зрэшты, гэта – больш у кампетэнцыі падаткавай інспекцыі, чым Транспартнай інспекцыі.

Няма нараканняў наконт перадрэйсавага медыцынскага агляду – заключаныя дамовы з райбальніцай і такія медыцынскія агляды рэгулярна праводзяцца. Скаргаў пасажыраў аб няякасным абслугоўванні пакуль не пададзена.

На заканчэнне хацелася б паведаміць, што 28 жніўня у КоАП Рэспублікі Беларусь арт. 18, ч.1 і ч.2, унесеныя змены. За парушэнне вадзіцелем рэжыму працы і адпачынку– штраф да 500 000 рублёў (было 400 000), за выезд без тахографа (кантрольнага бартавога рэгіструючага прыбора ў саставе транспартнага сродку, які прызначаны для кантролю і рэгістрацыі такіх параметраў, як: хуткасць руху, прабег аўтамабіля, перыяды працы і адпачынку экіпажа), штраф – 3 000 000 руб. (раней – 2 000 000).

***Паводле інфармацыі Транспартнай інспекцыі, АДАІ Глыбоцкага РАУС, ГУ ЦГЭ, Белтэхагляду.***

# Дарагая няпамятлівасць

**■ Аляксей Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.*

**Восень, адна з найпрыгожых пор года, дрэвы памянялі свой убор, птушкі збіраюцца ў зграі, каб паляцець у цёплыя краіны, прырода нібы замерла ў чаканні чагосьці новага. Цёплыя і сонечныя дні змяняюцца дажджлівымі і халоднымі з начамі. А вось у браканьераў нічога не змяняецца, яны працягваюць рабіць сваю цёмную справу, знішчаючы ўсё жывое.**

Штотыдзень ва ўсіх сродках масавай інфармацыі з'яўляюцца артыкулы, нататкі пра здзейсненыя факты браканьерства на тэрыторыі рэспублікі, аб асобах, якія іх здзяйснілі і пакараннях, якія вынесеныя судамі за здзейсненыя злачынствы, тэлеперадача Зона «Х» сістэматычна асвятляе самыя свежыя факты парушэння прыродаахоўнага заканадаўства. Стаўленне грамадзян да парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства прыкметна змянілася, грамадзяне нашмат радзей парушаюць і часцей звяртаюцца ў прыродаахоўныя органы, паведамляючы пра факты браканьерства і парушэннях.

Аднак, яшчэ не рэдкія выпадкі браканьерства, пры гэтым грамадзяне наўмысна парушаюць закон, нягледзячы на заўвагі грамадзян пра парушэнні, браканьеры іх проста ігнаруюць, лічачы сябе вышэй іншых і вышэй закона. Свядомасць такіх людзей застаецца на ўзроўні найпростых мікраарганізмаў, інстынкт самазахавання адсутнічае цалкам.

Знаходзячыся ў адным з чарговых начных рэйдавых мерапрыемстваў супрацоўнікі міжрайінспекцыі затрымалі жыхара Глыбоцкага раёна грамадзяніна Н., які прыйшоў на кукурузнае поле на паляванне, толькі вось пра тое, што паляванне павінна быць законным, ён забыўся. Дакументы на зброю ён забыўся, дакументы на права палявання забыўся дома, запісацца ў егера ў паляўнічую пуцёўку таксама забыўся. Інспектарам на ўсе пытанні адказваў, штосьці з памяццю маёй стала, усё забываю. Але інспектары гэтым казкам не моцна паверылі, а за незаконнае паляванне склалі адміністрацыйны пратакол, стрэльбу канфіскавалі. Прычына няпамятлівасці стала зразумелая адразу ж, як толькі затрымалі парушальніка, гэта алкагольнае ап'яненне і жаданне папаляваць незаконна. Зараз парушальніка чакае штраф і пазбаўленне права палявання з канфіскацыяй зброі, раённы суд няпамятлівасцю не пакутуе і ацэніць учынак грамадзяніна Н. па годнай якасці.

Гэта толькі адзін прыклад парушэння прыродаахоўнага заканадаўства, на жаль іх яшчэ вельмі шмат.

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і раслiннага свету просіць усіх грамадзян паведамляць пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства на тэлефоны «гарачай лініі» кругласутачна: 8-02156- 2-86-70, 2-80-30, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.

# Віцебскі дзяржуніверсітэт імя Машэрава адкрывае курсы па падрыхтоўцы прафесійных рабочых

**Падрыхтоўку кадраў па рабочых спецыяльнасцях пачынае ў бягучым годзе Віцебскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Машэрава, паведаміла карэспандэнту БЕЛТА намеснік дырэктара ІПК і ПК Алена Баброва.**

«Спецыяльныя курсы будуць адкрыты на базе Інстытута павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кадраў (ІПК і ПК). Плануецца весці перападрыхтоўку па такіх запатрабаваных спецыяльнасцях, як муляр, абліцоўшчык-плітачнік, тынкоўшчык, маляр, сталяр, цесляр, рэзчык па дрэве і бяросце, повар, цырульнік, швачка. Выкладаць будуць спецыялісты ўніверсітэта, а таксама майстры ўстаноў прафесійна-тэхнічнай адукацыі рэгіёна. Практычную частку курсанты будуць асвойваць на базе СНУ і ПТВ», - растлумачыла Алена Баброва.

Яна таксама падкрэсліла, што падрыхтоўка будзе весціся па розных праграмах з прысваеннем кваліфікацыі і без прысваення. Тэрмін навучання на курсах з прысваеннем кваліфікацыі і выдачай дакументаў дзяржаўнага ўзору - ад 6 да 9 месяцаў, без прысваення кваліфікацыі - ад 3 да 6 месяцаў. Першы варыянт навучання інстытут прапануе для спецыялістаў, якія плануюць працаўладкавацца пасля набыцця спецыяльнасці, другі - для тых, хто хоча асвоіць новую прафесію «для сябе».

«Перад тым, як адкрыць набор на курсы падрыхтоўкі спецыялістаў па рабочых прафесіях ва ўніверсітэце Машэрава праводзілася тэсціраванне, па выніках якога высветлілася, што большасць студэнтаў за час навучання ў ВНУ хацелі б асвоіць рабочую прафесію. Падбор спецыяльнасцей для курсаў перападрыхтоўкі праводзіўся зыходзячы з патрэбнасцей рынку працы і магчымасцей устаноў адукацыі абласнога цэнтра», - сказала намеснік дырэктара.

Заняткі на курсах пачнуцца па меры фарміравання груп і будуць праводзіцца ў вячэрні час 2-3 разы ў тыдзень.

*Алена Ціханава - БЕЛТА.*

# Бясплатныя курсы беларускай мовы і краязнаўства ў Паставах

**Аб гэтым паведамляе суполка УКантакце «ТБМ у Паставах».**

Заняткі будуць праходзіць кожны чацвер а 18-й гадзіне ў памяшканні раённай дзіцячай бібліятэкі імя Дубоўкі.

Кожны занятак будзе доўжыцца па дзве гадзіны - адна на вывучэнне беларускай мовы, а другая будзе прысвечана гісторыі Паставаў. Праводзіць іх будуць настаўнікі па беларускай мове і пастаўскія краязнаўцы, такія як Ігар Пракаповіч, Людміла Сямёнас і Вадзім Шышко.

Заняткі бясплатныя, запрашаюцца ўсе жадаючыя.

***Крыніца: «ТБМ у Паставах»***

# Гадзюка ўкусіла за язык турыста

**Выпадак адбыўся на Балтыйскім моры каля Клайпеды (Літва).**

**Група людзей злавіла ля мора гадзюку і засунула яе ў банку.**

На наступны дзень адзін з мужчын, напэўна, асмялеўшы пасля ўжывання алкаголю, зняў з банкі крышку і стаў паказваць гадзюцы язык, за які тая яго ўрэшце і ўкусіла.

Пацярпелы быў змешчаны ў рэанімацыю, яму аказалі медыцынскую дапамогу, пазней адпусцілі дадому. Медыкі раяць не марудзіць, калі вас ўкусіла змяя, і адразу ж ехаць да дактароў.

***Delfi.lt***

# Астравецкі лясгас будзе разводзіць муфлонаў

30 **муфлонаў неўзабаве з'явяцца ў лесапаляўнічай гаспадарцы Астравецкага лясгаса. Конкурс на іх закупку ўжо прайшоў, і зараз ідуць работы па пашырэнні і рамонце вальераў.**

Пакуль у Беларусі гэтых жывёл ніхто не разводзіць, ды і ў дзікай прыродзе нашай краіны яны не сустракаюцца. Яны распаўсюджаныя ў Арменіі, на поўначы Ірака, у Іране, на астравах Кіпр, Корсіка і Сардзінія. Муфлон — гэта дзікі від барана — добра пачуваецца як у гарах, так і на стэпавых пашах.

Паляванне на муфлонаў вядзецца здаўна. Галоўны трафей — вялікія спіральна закручаныя рогі. Праз некалькі гадоў у лясгасе плануюць адкрыць на іх паляванне.

*Паводле grodnonews.by*



## МНС інфармуе
**на 03.09.2013 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 714;
Гібель людзей – 90, з іх 1 дзіця;
Урон – 2824,893 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў –37;
Гібель людзей – 5, з іх дзяцей няма;
Урон – 308.4 млн. руб.

